**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 07 (880) 16 лютага 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




Фота advaitac.com

Чакаць вясны засталося не доўга!



ISSN 2077-8023



### Полацкі раён

# Крызіс накрыў і гандаль

■ Кастусь Александровіч

**Усё больш розных сфер паўсядзённага жыцця закранаюць крызісныя з'явы ў айчыннай эканоміцы.**

Непрыемным сюрпрызам для многіх жыхароў Наваполацка стала тое, што адна з буйнейшых гандлёвых сетак нафтаграда ААТ “Базіс-Наваполацк” апынулася на мяжы банкруцтва. Да нядаўняга часу яно паспяхова вяло гандлёва-вытворчую дзейнасць, аднак не разлічыла свае сілы, калі ўзяло вялікі крэдыт і пабудавала ў адным з мікрараёнаў горада буйны гандлёва-забаўляльны цэнтр “Глобус”. Яго плошчы слаба запаўнялі іншыя арандатары, да таго ж упала і пакупніцкая здольнасць збяднеўшых людзей. У выніку ў гэтай сетцы ўпалі значна аб'ёмы выручкі, істотна знізіўся асартымент тавараў, а шэраг гандлёвых кропак прыйшлося ўвогуле закрыць, скараціць штат прадаўцоў. Прыйшлося пайсці на непрыемную працэдуру дасудовага аздараўлення. З гэтай мэтай на продаж “Базіс” выставіў на аўкцыён у пачатку вясны свой двухпавярховы гандлёвы цэнтр “Дзвіна” з міні-рынкам, а таксама яшчэ сем прадуктовых магазінаў, сярод якіх вядомыя яшчэ з савецкіх часоў “Камсамольскі”, “Селена”, “Паўлінка” і іншыя. У адным з лотаў маркуецца прадаць таксама кафэ хуткага харчавання “Смайл”. Гэту сваю маёмасць гандлёвая сетка не ад добрага жыцця прадае разам з гадлёвым абсталяваннем і таварамі. У сферы гандлю зараз сур'ёзная канкурэнцыя, а лідарамі сталі ў Наваполацку буйныя рытэйлеры, кампаніі “Еўраопт” і “Рэсстрэйд”. Таксама “Базіс” перастаў карміць і мясцовых школьнікаў, гэтыя функцыі перадалі мясцоваму гасцінічнаму комплексу.

### Дубровенскі раён

# Каб паспець да восені

■ Чэслаў Якубовіч.

**Нават калі ў Беларусі не сталі праводзіць рэспубліканскія “Дажынкі”, многія райцэнтры мараць атрымаць права правесці такі фестываль-ярмарку працаўнікоў вёскі.**

Узрадаваліся і жыхары Дуброўна з насельніцтвам крыху больш 7 тысяч чалавек, калі іх зацвердзілі сталіцай падобнага абласнога свята 2017 года. Усе разумеюць, што за кароткі тэрмін інфраструктура мястэчка на абодвух берагах Дняпра зменіцца непараўнальна ў лепшы бок. Яшчэ летась тут першай пачалі абнаўляць старую аўтастанцыю, дзе ўставілі новыя вокны-шклопакеты, над будынкам з'явіўся сучасныя формы, стаў мяняцца фасад. Паміж будынкамі дзіцячай школы мастацтваў і СШ № 1 райцэнтра знеслі старыя непрывабныя памяшканні. Усяго ж сёлета ў Дуброўна плануюць абнавіць больш 80 розных аб'ектаў, пакласці новы асфальт на 9 вуліцах. У разгар зімы энергетыкі пачалі замену састарэлых апор ліній электраперадач. Гэта работа па рэканструкцыі паветраных ліній энергазабеспячэння, а таксама будаўніцтва новай трансфарматарнай падстанцыі прынясуць жыхарам горада бытавыя цяжкасці, дзе свет перыядычна адключаецца. З надыходам цяпла паселішча ўвогуле ператворыцца ў адну вялікую будаўнічую пляцоўку, але прыгажосць патрабуе, як вядома, пэўных ахвяр. Мясцовыя жыхары чакаюць, што сёлета ў іх, як летась у Сянно, з'явіцца новая зала ўрачыстых рэгістрацый ЗАГСа. Да хлебаробскага свята плануюць капітальна адрамантаваць 29 шматпавярховак, аб'екты сацыяльнай сферы, сярод якіх Дом культуры, універмаг, прафліцэй, стадыён і іншыя. Як і ў іншых месцах “Дажынак” стане не пазнаць цэнтральную плошчу, а да радасці малышоў – сучасную гульнявую пляцоўку.

### Пастаўскі раён

# Гараць людцы, гараць

■ Станіслаў Раманчук.

**Сёлетні год “вогненнага петуха”, на жаль, вельмі часта чамусьці ў розных кутках краіны апраўдвае сваю сімвалічную назву.**

З пачатку года падобныя здарэнні фіксуюцца практычна штотыдзень і ў Пастаўскім раёне. Дарэчы, і летась у гэтым заходнім рэгіёне на пажарах загінулі 8 чалавек, рост ахвяр агню значна вырас амаль у 3 разы. Характэрна, што найбольш часта падобныя беды ўзнікалі з-за неасцярожнага курэння на падпітку. Па такой прычыне суботнім вечарам загарэўся жылы дом у вёсцы Васевічы. Праз пяць мінут падчас тушэння пажару выратавальнікі знайшлі на падлозе каля ложку ў драўлянай хаце труп 83-гадовага гаспадара. Старому работнікі Варапаеўскага сельсавета прапаноўвалі пераехаць пераждаць зімовыя халады ў пансіянат для састарэлых, але той адмовіўся. Праз некалькі дзён пасля гэтай трагедыі надзвычайнае здарэнне было зафіксавана ў райцэнтры, дзе трое маладых людзей бавілі час і выпівалі ў драўляным гаражы. З-за неасцярожнасці ўзнік пажар, згарэў гараж з іншамаркай “Хонда”, а гараджан з сур'ёзнымі апёкамі цела даставілі ў райбальніцу. Услед за гэтым, праўда, ужо днём загарэўся гараж у вёсцы Свірдуны, дзе агонь знішчыў дах, столь і прыпаркаваны легкавы аўтамабіль. Праз пару дзён зноў на тэрыторыі Лынтупскага сельсавета толькі позна ноччу ўзнік пажар у вёсцы Саранчаны, дзе хата стала непрыгодная для жылля. У суседнім Глыбоцкім раёне, як і ў пастаўчан, была зафіксавана сёлета серыя падобных пажараў.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 16.02.17 | | | | Пятніца 17.02.17 | | | | Субота 18.02.17 | | | | Нядзеля 19.02.17 | | | | Пан.20.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -4 | -4 | +2 | -1 | -2 | -1 | +3 | 0 | -2 | -2 | +3 | 0 | -1 | -1 | +2 | +1 | -4 | -6 | 0 |
| Ціск | 760 | 757 | 754 | 751 | 750 | 748 | 747 | 748 | 749 | 749 | 750 | 748 | 745 | 741 | 737 | 734 | 736 | 741 | 740 |
| Вецер м/сек | 5 Пд-З | 6 Пд-З | 6 Пд-З | 5 Пд-З | 6 З | 6 З | 6 З | 5 З | 6 З | 6 З | 5 З | 6 Пд-З | 10 Пд-З | 10 Пд-З | 10 Пд-З | 9 Пд-З | 9 Пн-З | 6 Пн-З | 5 З |
| Вільготнасць | 83 | 89 | 62 | 75 | 84 | 91 | 71 | 75 | 83 | 90 | 70 | 77 | 77 | 83 | 72 | 75 | 70 | 60 | 37 |

# Аб самым надзёным

## ЗНЕШНІ ДОЎГ БЕЛАРУСІ РАСЦЕ, СУПЯРЭЧНАСЦІ З РАСІЯЙ У РОЗНЫХ СФЕРАХ СУПРАЦОЎНІЦТВА ТАКСАМА МНОЖАЦЦА



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Між тым, айчынная эканоміка падала апошніядва гады і не выключана, што гэтыя негатыўныя працэсы працягнуцца і сёлета. У выніку знешні дзяржаўны доўг Беларусі летась вырас амаль на 10 % і дасягнуў 13,6 млрд. долараў. Таксама расце і агульны дзяржаўны доўг краіны.**

Напярэдадні лютаўскага саміта ЕС на Мальце адзін з самых уплывовых палітыкаў свету, старшыня Еўрапейскага савета Дональда Туск папярэдзіў, што будучыня 27 дзяржаў кантынента, членаў садружнасці непрадказальная. З былым польскім прэм'ер-міністрам, сапраўды, трэба пагадзіцца, бо занадта ўжо імпульсіўны ў ЗША новы прэзідэнт, неспакойна ў Азіі і Афрыцы, падымае галаву радыкальны іслам, а таксама Расія вядзе агрэсіўную палітыку супраць Украіны і яе суседзяў. Гэта выказванне аднаго з лідараў ЕС цалкам можна аднесці і да нашай краіны, бо год пачаўся даволі трывожна. І пасля адчувальнага абвалу рэальных даходаў беларусаў сітуацыя ў эканоміцы ніяк не стабілізуецца.

На жаль, і да вельмі многіх суайчыннікаў адносіцца нядаўні афарызм ужо главы расійскага ўрада Д. Мядзведзева : “денег нет – но вы держитесь”. Таксама за тое, што бізнесмен А. Мураўёў не змог прадухіліць банкруцтва “Мотавела”, запазычыў і не вярнуў банкам пад 70 млн. долараў, суд пакараў яго 11 гадамі турмы і канфіскаваў купленыя раней акцыі праблемнага мотавелазавода. Гэты прыгавор, а таксама серыя гучных арыштаў дзелавых людзей, аўтарытэтных эканамістаў, сярод якіх экс-глава “Амкадора” В. Шлындзікаў справядліва назвалі вялікім няшчасцем для Беларусі. У нас і так даволі кепска было з замежнымі інвестарамі, перамовы з МВФ зацягнуліся, а яшчэ працягваецца пэўная геапалітычная напружанасцьвзаемаадносінах з саюзнікам і асноўным гандлёвым партнёрам – Расіяй.

Між тым, айчынная эканоміка падала апошнія два гады і не выключана, што гэтыя негатыўныя працэсы працягнуцца і сёлета. У выніку знешні дзяржаўны доўг Беларусі летась вырас амаль на 10 % і дасягнуў 13,6 млрд. долараў. Таксама расце і агульны дзяржаўны доўг краіны, усё цяжэй становіцца ўзяць новыя займы на знешніх рынках, дамовіцца з МВФ, падвіслі чарговыя траншы з фонду ЕАЭС. На шчасце, сітуацыя пакуль не крытычная, але калі тэндэнцыя захаваецца, ад нашых золатавалютных рэзерваў за некалькі гадоў можа нічога не застацца. А самае трывожнае, што ранейшая “братская” інтэграцыя перажывае перыяд вялікіх рознагалоссяў у розных сферах.

Чарговыя перамовы ў Маскве напрыканцы студзеня па нафтагазавых праблемах былі зноў безвыніковымі. Віцэ-прэм'ер урада РФ А. Дварковіч стаў настойваць на аплаце доўгу за газ у поўным аб'ёме і назваў унушальную суму 550 млн. долараў. Наша краіна з 1 лютага павысіла ў адказ тарыфы на пракачку расійскай нафты праз Беларусь. Сусед з Усходу і сёлета можа істотна скараціць, як і летась, аб'ёмы паставак нам расійскай нафты. Падліў масла ў агонь сумнавядомы глава карнага ведамства “Рассельгаснагляду” С. Данкверт, які абвінаваціў беларусаў у рээкспарце ўкраінскай ялавічыны і прыгразіў забараніць экспарт прадуктаў харчавання з усіх прадпрыемстваў Мінскай вобласці.

Не спадабаўся нашым расійскім суседзям і ўведзены Беларуссю абмежаваны бязвізавы ўезд, сталі гаварыць нават у крамлёўскіх кабінетах аб неабходнасці ўвядзення кантролю на расійска-беларускай граніцы. Цяпер няпроста знайсці сферу, дзе б у нас з Крамлём не было спрэчных момантаў. Не сакрэт, што правячая там эліта лічыла Беларусь сваім сатэлітам, які павінен быў заўсёды і ва ўсім слухацца, асабліва ў пытаннях знешняй палітыкі, свайго “старэйшага брата”. Зразумела, якому са знешніх апанентаў адрасаваў А. Лукашэнка нядаўна свае словы: “мы никому не позволим унижать наш народ и государство”.

З іншага боку калі можна было розумам зразумець гэту вялізную дзяржаву ад Смаленска да Курыл? Вось ужо Следчы камітэт РФ не сароміцца выклікаць на допыт беларускага фотамайстра А. Васюковіча за леташнюю ягоную фотавыставу ў Маскве аб вайне ў Данбасе, якую палічылі прапагандай забароненай украінскай арганізацыі “Правы сектар”. Сам Пуцін падзякаваў за працу адстаўнога генерала-разведчыка Л. Рашэтнікава, які не пасаромеўся назваць Беларусь – штучнай краінай, а нашу родную мову абазваў штучнай і створанай бальшавікамі. Гэта заява, якая пераклікаецца з ранейшымі падобнымі выказваннямі расійскага правадыра, выклікала адмоўную рэакцыю ў беларускім грамадстве, а МЗС Беларусі выказаў афіцыйны пратэст.

Дарэчы, адзін з беларускіх гісторыкаў неўзабаве даказаў, што гэты расійскі генерал, экс-глава Расійскага інстытута стратэгічных дасследванняў проста схлусіў: газета “Праўда” ў 1926 годзе не публікавала ніякай пастановы ЦК УКП (б) “Аб стварэнні беларускай мовы”. Вось толькі дагэтуль у нашай навейшай гісторыі яшчэ не было такога доўгага перыяду рознагалоссяў з Крамлём, хоць раней беларусам адключылі ўжо і газ у лютыя маразы. З кожным днём, на жаль, спакайней не становіцца, сітуацыя ў эканоміцы працягвае заставацца няпростай. Нам, простым людзям, застаецца толькі спадзявацца, што Масква з Мінскам знойдуць неўзабаве ўзаемны кампраміс і пераадолеюць разам узнікшыя цяжкасці. Пры гэтым даўно ў Крамлі павінны былі зразумець, што Беларусь усё ж самастойная краіна са сваёй шматгадовай гісторыяй і культурай і мы маем права развіваць добрыя адносіны і з іншымі дзяржавамі свету.

## Дзень за днём

**Сярэдні заробак беларусаў у снежні вырас да 800 рублёў. Адчувальна павысіліся тарыфы на паслугі ЖКГ. Нацбанк дазволіў карыстацца дома электроннымі кашалькамі. Толькі на пісьмы "дармаедам" дзяржава патраціла каля 80 тысяч долараў. збор заплацілі 35 тысяч з іх. У Беларусі абмежавалі доступ да расійскага крайне шавіністычнага сайта "Спутник и погром". Канцэрн Volkswagen пачаў прадаваць у Беларусі аўтамабілі анлайн. Мінадукацыі пацвердзіла, што наведванне школ па суботах будзе добраахвотным. Для беларусаў падаражэлі выдача пашпартоў у паскораным выпадку і зноў – цыгарэты.**

# Важнейшыя навіны свету

**Англія.** Вярхоўны суд пастанавіў, што толькі пасля атрымання згоды двух палат парламента ўрад краіны зможа запусціць у дзеянне механізм выхаду Брытаніі з ЕС.

**Германія.** Суд ЕС прызнаў расійскі канцэрн "Алмаз-Антэй" вінаватым у пастаўках ваеннай зброі сепаратыстам ва Украіне і пацвердзіў замарозку яго актываў у Еўропе.

**ЗША.** Прэзідэнт Д. Трамп увёў часовую забарону на ўезд у краіну бежанцаў, а таксама грамадзян Сірыі, Ірана, Ірака, Лівіі, Самалі, Судана і Йемена нават тых, у каго ёсць візы.

**Мексіка.** Прэзідэнт Э. Ньеса асудзіў рашэнне калегі з ЗША ўзвесці сцяну на граніцы дзвюх краін і заявіў, што мексіканцы не будуць за яе плаціць, як хоча гэтага Д. Трамп.

**Казахстан.** Лідары сірыйскай апазіцыі на прайшоўшых у Астане перамовах адхілілі праект новай Канстытуцыі краіны, прапанаваны Расіяй, і адмовіліся падпісаць камюніке.

**Польшча.** Лідар КХП-БНФ З. Пазьняк заявіў, што галоўнай пагрозай свету стаў не ісламізм, а імперыя з Усходу з рэліктавай агрэсіўнай ментальнасцю, ядзерным арсеналам.

**Украіна.** Экс-прэзідэнт Л. Краўчук заявіў, што Пуцін павінен зразумець, што ён зайшоў вельмі далёка, бо амаль 50 млн. украінцаў ніколі не згадзяцца стаць рабамі Расіі.

**Кітай.** Прэс-сакратар прэзідэнта РФ. Д. Пяскоў заявіў, што Масква не ўспрымае пагрозу размяшчэння кітайскіх балістычных межкантынентальных ракет уздоўж сваіх граніц.

**Швейцарыя.** Генеральны дырэктар Сусветнай гандлёвай арганізацыі Раберта Азеведа пацвердзіў сваю падтрымку хутчэйшаму ўступленню Беларусі ў СГА.

**Украіна.** Па праграме дэкамунізацыі ў краіне знеслі 2389 помнікаў Леніну і манументаў савецкай эпохі, перайменавалі 32 гарады, 25 раёнаў, 955 вёсак і каля 52 тысяч вуліц.

**Расія.** Глава Чачні Р. Кадыраў заявіў, што тры ягоныя дочкі ніколі ў школе не здымуць хіджаб мусульманкі, як таго патрабуе міністр адукацыі і навукі РФ В. Васільева.

**ЗША.** Праграмісты краіны пачалі выпуск праграм для фермераў па апрацоўцы палёў тэхнікай без трактарыстаў, у Каліфорніі наладзілі выпуск нана малака без кароў.

**Латвія.** На пункце пропуску Індрас мытнікі пасля сканіравання двух таварных цягнікоў з Беларусі знайшлі пад вуглём дзве партыі са 100 тысяч пачак кантрабандных цыгарэт.

**Польшча.** Былы пасол у Мінску Л. Шарэпка заявіў, што беларусы звыкліся, сцярпеліся з тым, што еўрапейцам здаецца маразмам, бо нідзе болей няма падатку на беспрацоўных.

**Расія.** Пасля звестак аб візіце замежных допінг-афіцэраў з зімовага чэмпіянату РФ у бегу на 1 мілю з турніру раптам зняліся болей 140 удзельнікаў, засталося 12 лёгкаатлетаў.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Украінскі ваенны эксперт А. Арэстовіч, які прадказаў анексію Крыма Расіяй, папярэдзіў, што спакойнае жыццё Беларусі скончылася, як саюзнік яна не задавальняе РФ.

**Ганцавічы.** Дзякуючы пільнасці бацькоў і дапамозе медыкаў выратавалі ад гібелі пасля ўколу антыбіётыкаў 12-гадовую школьніцу, за тыдзень былі 3 падобныя выпадкі ў РБ.

**Астравец.** На пляцоўку ўзводзімай БелАЭС даставілі з Расіі новы корпус рэактара для энергаблока № 1, папярэдні корпус быў крыху пашкоджаны пры падзенні з вышыні.

**Брэст.** Мясцовы завод "Белалко" ўвайшоў з яшчэ 7 заводамі краіны ў холдынг "Мінск Крышталь Груп", які стаў буйнейшым вытворцам алкаголю ва Усходняй Еўропе.

**Мінск.** Услед за бязвізавым уездам на 5 дзён, як папярэдзіў палітолаг А. Класкоўскі, можа быць у нас і мараторый на пакаранне смерцю, разлічаны на прыхільнасць Захаду.

**Слуцк.** На сустрэчы з калектывам цукровага камбіната глава адміністрацыі прэзідэнта Н. Качанава заявіла, што задача па росце зарплаты да 500 USD павінна быць выканана.

**Гомель.** Тэлеканал "Белсат" паведаміў, што "Гомсельмаш" у тэрмін не змог выканаць заказа Татарстана па перадаплаце па выпуску 45 камбайнаў з-за адсутнасці металу.

**Барысаў.** Аўтазаводу "БелДжы" даручылі да канца года выпусціць на базе седана Geely SC7 першых 100 машын з электрапрывадам і запусціць іх у пробную эксплуатацыю.

**Гродна.** Першы ў краіне маршрут для бескантактных тралейбусаў запрацаваў у горадзе, вясной у Мінску запусцяць першую лінію з 20 электробусаў айчыннай вытворчасці.

**Магілёў.** МАЗ сумесна з кітайскай кампаніяй Zoomlion стварылі СП у СЭЗ "Магілёў" па выпуску сучаснай спецыяльнай тэхнікі для рынкаў краін СНД і Еўрасаюза.

**Мінск.** Пасля вяртання з Жэневы зноў быў затрыманы КДБ буйны беларускі бізнесмен, заснавальнік групы кампаній "Сармат" А. Кныровіч, вядомы крытыкай сітуацыі ў краіне.

**Чавусы.** Днём глава раёна С. Драздоўскі з участковым інспектарам А. Барсуковым выратавалі ад гібелі на пажары 51-гадовага жыхара вёскі Галузы, выцягнулі яго з агню.

**Слонім.** У раённым цэнтры звольнілі 25-гадовага настаўніка фізкультуры, які на падпітку ўкраў на занятках у вучня 11 класа дарагі гадзіннік, экс-педагогу пагражае да 3-х гадоў турмы.

**Мінск.** Старшыня прафсаюза РЭП Г. Фядыніч заявіў, што большасць не заплаціць падатак на дармаедаў, таксама яны не гатовы выходзіць на плошчу і адстойваць свае правы.

**Барысаў.** Па гучнай справе гібелі летась 6 чалавек ад чаднага газу суд пакараў двух слесараў "Барысаўгазу" 4 гадамі пазбаўлення волі кожнага ў калоніі-пасяленні.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Мінпрацы і сацабароны пракаментавала парадак індэксацыі даходаў насельніцтва за студзень



■ Кар. БЕЛТА

**Міністэрства працы і сацыяльнай абароны пракаментавала парадак індэксацыі даходаў насельніцтва Беларусі за студзень 2017 года, паведамляе БЕЛТА.**

У адпаведнасці з законам «Аб індэксацыі грашовых даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі» індэксацыя ўяўляе сабой карэкціроўку велічыні не маючых аднаразовага характару даходаў фізічных асоб з бюджэтных крыніц у мэтах частковай кампенсацыі страт, выкліканых інфляцыяй, і вырабляецца ў выпадку перавышэння пяціпрацэнтнага парога індэксам спажывецкіх цэн, вылічаным нарастаючым вынікам з моманту іх папярэдняй індэксацыі (перагляду памераў даходаў). Індэксацыя за студзень бягучага года праведзена ў выглядзе аднаразовага перагляду грашовых даходаў (заработнай платы, дзяржаўных стыпендый навучэнцам, стыпендый клінічным ардынатарам, стыпендый работнікам, накіраваным на павышэнне кваліфікацыі, перападрыхтоўку, стажыроўку ў вочнай (дзённай) форме навучання ў іншы населены пункт), якія атрымліваюцца з бюджэтных крыніц; устаноўленых ад базавай велічыні дапамог па беспрацоўі і стыпендый грамадзянам у перыяд прафесійнай падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі па накіраванні органа па працы, занятасці і сацыяльнай абароне гарадскога, райвыканкама Мінімальная заработная плата ўстаноўлена з 1 студзеня 2017 года пастановай Савета Міністраў у памеры Br265. Паводле інфармацыі Нацыянальнага статыстычнага камітэта, індэкс спажывецкіх цэн за студзень 2017 года ў параўнанні са снежнем 2016 года склаў 100,9%. Перавышэнне пяціпрацэнтнага парога ў студзеня 2017 года да месяца перагляду заработнай платы дзяржаўных служачых і прыраўнаваных да іх асоб; грашовага забеспячэння ваеннаслужачых, асоб радавога і начальніцкага складу; грашовага забеспячэння ваеннаслужачых тэрміновай ваеннай службы, суворавцаў, выхаванцаў воінскіх часцей, курсантаў ваенных навучальных устаноў (красавік 2016 гады), не адбылося. У сувязі з гэтым названыя віды даходаў за студзень не індэксуюцца. Насельніцтву, якое атрымлівае даходы на тэрыторыі рэспублікі з іншых крыніц, кампенсацыя страт ад інфляцыі ажыццяўляецца па падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі). Даведачна. Грашовыя даходы насельніцтва за студзень, якія падлягаюць індэксацыі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам, індэксуюцца ў межах Br180,10 - 100% бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, які дзейнічае на момант індэксацыі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Вучоныя інстытута тэхнічнай акустыкі НАН Беларусі ўпершыню стварылі для "Белшыны" айчынныя сістэмы ўльтрагукавых нажоў для рэзкі пакрыцця шын для аўто.

**Шаркаўшчына.** Камітэт дзяржаўнага кантролю выявіў, што на рамонт свінакомплексу КУСХП "Гарадзец" купілі матэрыялы ў 2 разы даражэй іх кошту, распачата крымінальная справа.

**Ушачы.** З заробкамі ў сярэднім па 482 рублі ў месяц раён разам з Шаркоўшчынскім, Мёрскім, Сенненскім і Бешанковіцкім увайшлі ў топ-7 самых бедных рэгіёнаў Беларусі.

**Гарадок.** Тэлеканал АНТ паказаў жыхароў раёна, абураных тым, што з лютага вытворчы цэх "Віцебскае малако" перастаў прымаць малако з мясцовых прысядзібных гаспадарак.

**Талачын.** На ўзводзімы інвестарамі з Даніі сучасны поўнасцю аўтаматызаваны свінакомплекс на 22 тысячы галоў у гатовыя памяшканні завезлі 136 элітных свінаматак.

**Мёры.** На ўзводзімым ля райцэнтра металургічным заводзе пачалі заліўку арматурных каркасаў пад лістапракатны цэх па выпуску белай бляхі, будуюць і іншыя аб'екты.

**Руба.** Глава вобласці М. Шарстнёў даручыў за 2 гады правесці рэканструкцыю закінутага Дома быту і перасяліць сюды мясцовую школу мастацтваў, адрамантаваць Дом культуры.

**Віцебск.** Па дадзеных маніторынгу, летась у вобласці прадукты падаражэлі ў сярэднім на 10 %, прамтавары – на 5 %, паслугі – на 19,3 %, рост цэн быў на 0,5 % ніжэй, чым у РБ.

**Верхнядзвінск.** Нарад Полацкага пагранатрада вечарам затрымаў паблізу граніцы з Латвіяй групу з 7 незаконных мігрантаў з В'етнама, а пазней і іх праваднікa з Чачні.

**Шуміліна.** Работнікі мясцовага лясгаса вызвалілі ад гібелі лася, які патрапіў у лесе ў пастаўленую браканьерамі пастку, жывёлу адпусцілі, а мярзотнікаў пачалі шукаць.

**Паставы.** Ноччу міліцыя з пагранічнікамі спынілі спробу нелегальнай дастаўкі 8 грамадзян В'етнама ў Літву, іх незаконны ўезд з Расіі арганізавалі масквіч і жыхар Чачні.

**Орша.** У суседняй Расіі затрымалі двух маладых аршанцаў, якія восенню 2015 года збілі наведвальніка страхавой кампаніі і завалодалі вялікай сумай грошай, уцяклі за граніцу.

**Глыбокае.** Упершыню на конкурс "Еўрабачанне" паедзе беларускамоўная песня маладога гурта Navi з салістам глыбачанінам, выпускніком СШ № 3 Арцёмам Лук'яненка.

**Браслаў.** Нацыянальнае агенцтва па турызму ўключыла ў лік 4-х унікальных экскурсій па Беларусі сафары на баброў у нацпарку "Браслаўскія азёры" з 74 маляўнічых вадаёмаў.

**Віцебск.** У мясцовым Арт-цэнтры музеі правялі прэзентацыю 4-га выпуску Шагалаўскага зборніка, у той дзень упершыню ў Інтэрнеце размясцілі яго поўную электронную версію.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Самым вядомым “дармаедам” – усіх часоў – быў Язэп Драздовіч

■ Уладзімір Скрабатун



**Сапраўды, вандроўны мастак Язэп Драздовіч, па ўсіх параметрах, як сёння, так і ў часы свайго жыцця, цалкам падпадаў у катэгорыю “дармаедаў”.**

За “польскім часам” яго дужа ніхто і не чапаў. Хадзіў сабе чалавек ад вёскі да вёскі, ад хаты да хаты, маляваў дываны, за гэта яму прадстаўлялі начоўку і харчаванне.

Іншая рэчаіснасць настала з прыходам савецкай улады. “Дармаеда” Язэпа Драздовіча за няўплату падаткаў пачала “шчаміць” Глыбоцкая (мо, па часе і памыляюся, тады, хіба, быў Плiскі раён, цэнтр – г.п. Падсвілле) падатковая інспекцыя.

– Я нідзе не працую!– напэўна так адказаў спадар Драздовіч.

Падносяць яму маляваны дыван, ягонай жа работы, а там подпіс – *Драздовіч*.

Апусцім той момант, як Драздовіч “адмазаўся ад наездаў”, аднак потым ён стаў больш абачлівым! На дыванах больш не ставіў подпіс *Драздовіч*, а крыптонім “*D*”.

Гэтую гісторыю, гадоў пяць таму, распавёў аўтару гэтых радкоў глыбачанін, жыхар вуліцы Чкалава, яшчэ да ўвядзення Дэкрэта аб “дармаедстве”.

Ну, а не быў бы Язэп Драздовіч “дармаедам”, працаваў бы ў нейкім калгасе мастаком-афарміцелем, насценную газету маляваў, то, ці ўбачылі б тады яго дываны-маляванкі?!

Маляваныя дываны Віцебскага Паазер’я ўнесеныя ў дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей. Адпаведнае рашэнне было прынята на пасяджэнні Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь яшчэ ў снежні 2014 года.




# У першыя дні бязвізавага рэжыму ў Беларусь найбольш актыўна едуць немцы і італьянцы

**Немцы і італьянцы найбольш актыўна карыстаюцца бязвізавым рэжымам уезду ў Беларусь у першыя дні яго дзеяння, паведамілі карэспандэнту БелТА ў Дзяржаўным пагранічным камітэце.**

Сярод першых іншаземцаў, якія прыбылі ў Беларусь па бязвізавым рэжыме, больш за ўсё грамадзян Германіі (43 чалавекі), Італіі (32). З Вялікабрытаніі і Нідэрландаў прыехала па 16 чалавек, з Польшчы - 14. Усяго, паводле даных на 18.00, у бязвізавым парадку праз пункт пропуску Нацыянальнага аэрапорта Мінск прапушчана 218 чалавек. Як паведамлялася, пяцідзённы бязвізавы рэжым для грамадзян 80 краін пачаў дзейнічаць у Беларусі 12 лютага. Прыехаць без візы могуць грамадзяне 39 краін Еўропы, уключаючы ўвесь Еўрасаюз, а таксама Бразіліі, Інданезіі, ЗША, Японіі і іншых дзяржаў. У першую чаргу гэта бяспечныя ў міграцыйным плане краіны, стратэгічныя партнёры Беларусі, дзяржавы, якія ў аднабаковым парадку ўстанавілі бязвізавы рэжым адносна беларускіх грамадзян. Для грамадзян В’етнама, Гаіці, Гамбіі, Гандураса, Індыі, Ірака, Кітая, Лівана, Намібіі, Самоа абавязковым дадатковым патрабаваннем з’яўляецца наяўнасць у дакументе для выезду за мяжу дзеючай шматразовай візы дзяржаў ЕС або Шэнгенскай зоны з адзнакай аб уездзе на іх тэрыторыю, а таксама авіябілетаў з пацвярджэннем у іх вылету з Нацыянальнага аэрапорта Мінск на працягу 5 дзён з даты ўезду.






*БелТА.*



# У Беларусі пражываюць 24,6 тыс. ветэранаў баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў

**У Беларусі, па дадзеных на 1 студзеня бягучага года, пражывалі 24,6 тыс. ветэранаў баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў, паведамілі карэспандэнту БелТА ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны.**

Сярод ветэранаў баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў – 649 інвалідаў, у тым ліку 47 – інвалідаў першай групы. Па словах спецыялістаў, каля 30 тыс. грамадзян Беларусі прынялі ўдзел у вайне ў Афганістане. Больш за 1,5 тыс. чалавек атрымалі раненні, кантузіі, калецтвы на той вайне, 718 – вярнуліся дадому інвалідамі, 771 – загінуў, 12 чалавек лічацца знікшымі без весткі. Штогод 15 лютага адзначаецца Дзень памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў. Да памятнай даты рэспубліканскімі органамі дзяржкіравання, аблвыканкамамі і Мінгарвыканкамам праводзяцца мерапрыемствы па абследаванні ўмоў жыцця членаў сем’яў загінулых, інвалідаў, аказанні ім матэрыяльнай падтрымкі, рамонце і прывядзенню ў парадак магіл загінулых воінаў-інтэрнацыяналістаў. Меры сацыяльнай абароны ветэранаў баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых дзяржаў прадугледжаны законамі “Пра ветэранаў” і “Пра дзяржаўныя сацыяльныя льготы, правы і гарантыі для асобных катэгорый грамадзян”.

*БелТА.*

# Лучай запрашае на заканчэнне Карнавалу

Парафія святога Апостала Тадэвуша ў Лучаі запрашае 26 лютага на заканчэнне Карнавалу, які адзначаецца ў апошнія дні перад Вялікім постам.

У праграме прадугледжана малітоўная і музычная часткі.

Распачнецца мерапрыемства ў 15 гадзін у лучайскім касцёле святой Імшой. Працяг адбудзецца ў Раённым Доме культуры (г. Паставы, вул. Станкевіча, 15а).

У 17 гадзін запланаваны канцэрт з удзелам Арт-групы «Беларусы» пад кіраўніцтвам Валерыя Шмата і каталіцкага гурта «Laudans».

Кошт квітка — 3 руб. Распаўсюд квіткоў адбываецца ў парафіях на Пастаўшчыне.

# Лукашэнка: Праблема, якая існавала апошнія гады з рэгіянальнымі газетамі, ад сёння знікае

■ Уладзімір Скрабатун

**Галоўны рэдактар «Народнай волі» Іосіф Сярэдзіч, у панядзелак 13 лютага, меў аўдыенцыю ў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.**

Галоўны рэдактар «Народнай волі» кажа, што не ішоў дамаўляцца з Аляксандрам Лукашэнкам. «*Мая справа была — выказаць сваё бачанне развіцця падзей у Беларусі, якім чынам усім нам, беларусам, не дапусціць нейкіх драматычных падзей на нашай зямлі, каб тут не палыхнула нічога, каб не было вайны і крывавых разборак*».

«*Я ўспомніў таго ж Яруззельскага. У крытычны час для палякаў Яруззельскі ініцыяваў нацыянальны польскі круглы стол. Я думаю, што над гэтай прапановай задумаецца і Лукашэнка, і я не выключаю, што такая магчымасць будзе. Трэба садзіцца і спакойна вырашаць*», — рэзюмаваў Сярэдзіч.

Спадар Сярэдзіч апроч іншага, у гутарцы з Прэзідэнтам, выступіў сёння адвакатам незалежных СМІ.

«*Праблема, якая існавала апошнія гады з рэгіянальнымі газетамі, ад сёння знікае.* Лукашэнка сказаў мне: «*Можаш адкрыта сказаць сваім калегам, што больш яе не будзе*».

Гэта значыць, што «Вольнае Глыбокае» можа прэтэндаваць на аднаўленне падпіскі, якую нам скасавалі ў студзені 2005 года? Мінула роўна 12 гадоў!

Менавіта 12 гадоў таму наша газета патрапіла ў “чорны спіс”, з якога да сёння ніхто нас не выкрасліў. Абсурднасць сітуацыі ў тым, што Міністэрства сувязі сваім поштам рэкамендавала скасаваць з намі падпіску!

Больш таго, Мінсувязі – вы не паверыце! – ініцыявала закрыццё газеты «Вольнае Глыбокае». Заўважце, не рэгіструючы орган – Міністэрства інфармацыі, не КДБ, не МУС, нарэшце і не мясцовыя ўлады, а Міністэрства сувязі. Нонсэнс! На чым яшчэ зарабляць поштам, як не на дастаўцы карэспандэнцыі абанентам? А Мінсувязі – закрыць газету, каб не насіць!

Калі верыць Прэзідэнту, то нам толькі і засталося падаць заяўку на «Белпошту» у Мінску на ўключэнне ў падпісны каталог нашай газеты на 2-е паўгоддзе 2017 года. Што ж спраўдзім! Ці нам ізноў адпішуць, што «заключэнне з вамі дамовы – лічым не мэтазгодным»?

# Кожны раён Беларусі павінен мець свой фэст - БФК

**Кожны раён Беларусі павінен мець свой фэст. Такое меркаванне выказаў намеснік старшыні рады Беларускага фонду культуры Тадэвуш Стружэцкі на прэс-канферэнцыі на тэму “Беларускі фонд культуры: 30 гадоў пошукаў, знаходак, расчараванняў” у прэс-цэнтры БелТА.**

“*Наяўнасць у кожным раёне краіны асаблівага фэсту, які паказваў бы мясцовы каларыт, дало б штуршок да развіцця турызму. Такія фэсты могуць стаць цэнтрамі фэставага турызму, вакол якіх будзе развівацца адпаведная інфраструктура*”, - лічыць Тадэвуш Стружэцкі. Па яго словах, фэсты, падобныя “Мотальскім прысмакам”, “Яблычнаму спасу”, разнастаяць і ўзбагацяць палітру культурных мерапрыемстваў рэгіёнаў і краіны ў цэлым. Тадэвуш Стружэцкі распавёў таксама, што Беларускі фонд культуры ўдзельнічае ў падрыхтоўцы і правядзенні фэстаў народнага мастацтва, сярод якіх “Берагіня”, “Звіняць цымбалы і гармонік”, “Аўцюкі”.

*БелТА.*



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

"Менавіта з узросту трох гадоў неабходна пастаянна пераконваць сына: "Ты – мужчына!"
*Дзмітрый Нагіеў*

# Мужчыны, мужчыны! Вы помніце званне сваё!

**Юрый Вяземскі, аўтар і вядучы тэлеперадачы "Разумнікі і разумніцы", лічыць, што чалавек павінен пастаянна развіваць свой унутраны духоўны свет. А перш за ўсё яму важна зразумець, для чаго ён нарадзіўся на свет, і як павінен пражыць сваё жыццё.**

Нітысячыпрачытаных кніг, ні эрудыцыя, ні ўказанні самаму сабе: "Я стану лепшым! Я буду працаваць над сабой!" не зробяць з хлапчука мужчыну, з юнака чалавека, калі ў яго з дзіцячых год не закладзена ўстаноўка "Я – мужчына!". Глыбінная прырода ўсё роўна лезе з яго. Як яе ўтаймаваць, каму яна падуладна, аднаму Богу вядома. Мы павінны знайсці адказы. Прынцып, што чалавеку можна растлумачыць, якім ён павінен быць, і ад гэтага ён стане лепшым – памылковы. Толькі прайшоўшы пакуты, ён становіцца больш мудрым, цярплівым, лепшым.

Але, каб такое адбывалася, яму неабходны пастаянны прыклад з асабістага жыцця. Такім прыкладам можа і павінен быць бацька. Аўтарытэт бацькі ствараецца не забаронамі і пакараннямі, а прыкладам і адабрэннем. Мне ў дзяцінстве і юнацтве пашанцавала. Нарадзіўся я і рос у беднай сям'і, з матэрыяльнага пункту гледжання. Не былі мы галодныя, голыя і босыя, але далёка не вялі багатае жыццё. Затое ў маральным плане гэта была прыстойная сям'я. Бацька ніколі не крыўдзіў маці. Ён ні разу не зняважыў яе маральна, а тым больш, фізічна. Ён нават голасу на яе не павышаў, шкадаваў і любіў. Калі мама ў 1940 годзе пасля цяжкіх родаў ляжала на Боскай пасцелі і ўсе згубілі надзею на яе выздараўленне, а час з дактарамі быў цяжкі, польскія ўрачы зніклі, а новая ўлада яшчэ імі бальніцы не забяспечыла, бацька не губляў надзею і збярог маму ад смерці. У сям'і ў нас панавалі абставіны – жанчына – гэта нешта светлае, крыўдзіць яе нельга. І у мяне, і ў майго пакойнага брата гэта ўстаноўка засталася на ўсё жыццё.



Жанчыны заўсёды жаляцца, што мужчын вакол няма. А адкуль узяцца сапраўдным мужчынам, калі ў нас такая вялікая бязбацькаўшчына. Колькі ў нас дзяцей нараджаецца не ў шлюбе? Колькі хлопчыкаў выхоўваюць адны маці? Вось яны і выхоўваюць сваіх сыноў, як дзяўчынак. Сюсюкаюцца ў дашкольны перыяд, а потым і ў школе. Пераймаюць яны сэнс жыцця ад старэйшых юнакоў, а гэта вульгаршчына, цынізм і ўсе іншыя прывабнасці безадказных паводзін.

Што ўваходзіць у разуменне "мужчына"? Мужчына павінен быць моцным. Умець прымаць рашэнне і браць на сябе адказнасць за іх. Ці вучым мы нашых дзяцей самастойна прымаць рашэнні і адказваць за іх? Бо прымаць рашэнне і несці адказнасць – два бакі аднаго медаля. Свабода – з аднаго боку, бо я прымаю рашэнне непрымусова, дабравольна. Абмежаванне свабоды – з другога боку, бо я бяру на сябе абавязкі любым коштам выконваць прынятае мной рашэнне.

**Мужчына не прымае рашэнне, яго прыняла яго жонка, але адказнасць нясе ён. Гэта не мужчына, а падкаблучнік. Мужычок.**

Прыклад: мужчына прымае рашэнне, але нясе за яго адказнасць яго жонка. Гэта не мужчына, а мамчын сынок. Мужчынка, жывая істота ў мужчынскіх штанах.

Мужчына не прымае рашэнне, яго прыняла яго жонка, але адказнасць нясе ён. Гэта не мужчына, а падкаблучнік. Мужычок.

Па словах Дзмітрыя Нагіева, свабода пачынаецца з самаабмежавання. У адэкватнай схеме выхавання правілы павінны быць такімі: "Лепшае – маме. Таму што яна жанчына. Затым – кату. Таму што ён бездапаможны і залежыць ад нас. А пасля ўжо нам з табой. Таму што мы мужчыны".

Гэты прынцып павінен захоўвацца з моманту ўсведамлення сябе як асобы. Псіхолагі называюць гэты ўзрост: тры гады! Паважаныя бацькі! З трох год ваш сын або мужчына, або ў яго пачынаюцца гендэрныя скрыўленні. І чым далей вы з ім абыходзіцеся не як з мужчынам, тым глыбей будзе заганяцца яго мужчынскі пачатак. А любыя прыніжаныя і няправільна развітыя мужчынскія інстынкты потым праяўляюцца ў скажонай форме: агрэсія, нянавісць або поўная непавага да жанчын і многа іншых адмоўных якасцяў. Менавіта з трох гадоў неабходна пастаянна казаць сыну: "Ты – мужчына!" І з гэтага ўзросту патрэбна вучыць яго нармальнаму мужчынскаму слову "павінен", не проста слову, а ў патрэбных абставінах праяўляць свае мужчынскія якасці: умець цярпець, умець пераадольваць сябе, умець памыляцца, умець быць пяшчотным, умець быць грубым, умець адказваць за свае словы. Мужчына павінен умець БЫЦЬ. На жаль, але гэта факт, многія вашы патрабаванні: "Я так сказала, таму ты павінен", прыводзяць да пратэсту, або развіццю сацыяпатычнай асобы. А колькі ж у нас мужчынак не здольных выконваць нейкія дзеянні.

Так, да дзіцяці патрэбна адносіцца, як да дарослага! Але гэта не значыць, што не патрэбна з ім гуляць, прабачаць яго памылкі, абдымаць і шкадаваць яго, усміхацца яму, узнагароджваць яго за добрыя справы. Расціце са сваіх сыноў сапраўдных мужчын, мамы і таты! Незразумелых барбі-боеў і так ужо з перабoрам навырошчвалі вашы папярэднікі. Калі мы ўсім кагалам, бацькі, школы, грамадскія арганізацыі, наша ідэалагічная служба па-сапраўднаму зоймемся выхаваннем сапраўдных мужчын, то, упэўнены, не будзе дэфіцыту ў годных жаніхах.

А женщина женщиной будет –
И мать, и сестра, и жена.
Уложит она, и разбудит,
И даст на дорогу вина.
Проводит и мужа, и сына,
Обнимет на самом краю.
Мужчины, мужчины, мужчины,
Вы достойно несите мужскую
честь свою.

***

Матэрыял напісаны на аснове асабістага жыцця і меркавання спецыялістаў, аўтараў артыкулаў з СМІ.

# Ксёндз выйграў суд у ДАІ

**Вячаслаў Барок, пробашч касцёла святога Антонія ў Віцебску, абвінавачваўся ў тым, што летась 1 ліпеня парушыў правілы дарожнага руху на каталіцкім фэсце ў Будславе.**

**Святар нібыта незаконна прыпаркаваў аўто на скрыжаванні.**



Пасля Барок тлумачыў, што ў дзень свята рух у Будславе перакрываецца, праехаць на спецыяльна адведзеную стаянку могуць толькі святары і прадстаўнікі ўладаў. Але супрацоўнікі ДАІ не прапусцілі святара да гэтай стаянкі і аштрафавалі яго на 42 рублі.

Вячаслаў Барок штраф не аплочваў і некалькі разоў асպрэчваў пратакол. Спачатку падчас адміністратыўнага працэсу святара прызналі вінаватым. Але пасля скаргі суд Фрунзенскага раёну Мінска ў кастрычніку 2016 года накіраваў на дапрацоўку ў ДАІ пратакол аб парушэнні і прыцягненні да адказнасці ксяндза.

І вось 9 лютага суд Фрунзенскага раёна Мінска ўсё ж вырашыў спыніць адміністратыўны працэс у дачыненні да святара.

«Там даішнікі ўжо самі пачалі блытацца ў версіях: спачатку яны сцвярджалі, што спынілі мяне, бо не зразумелі ці то я ксёндз, ці то не… Пасля яны казалі, што я ўжо сам спыніўся на тым перакрыжаванні… Ну і вось, нарэшце, суд зразумеў, што нічога я не парушаў», — распавёў журналістам Вячаслаў Барок.

*Паводле nn.by*

# Новыя дапаможнікі з'явяцца ў школьнікаў 3-х і 7-х класаў

**Новыя дапаможнікі з'явяцца ў школьнікаў 3-х і 7-х класаў у наступным навучальным годзе, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе Міністэрства адукацыі.**



Усяго падрыхтуюць каля 30 кніг. Замена школьных дапаможнікаў – адзін з этапаў рэалізацыі новай вучэбнай праграмы, якую распрацавалі ў мінулым годзе. Тады цалкам абнавілі падручнікі для 1-х, 5-х і 10-х класаў. Перавыдаць усе падручнікі плануецца да 2020 года. Сёння над гэтым працуюць аўтарскія калектывы, якія выйгралі па конкурсе права на іх распрацоўку. Таксама прыцягваюцца педагогі са стажам.

*БелТА.*

# У Беларусі распрацуюць устройства, якое дапаможа сэрцу перакачваць кроў

**У Беларусі працуюць над стварэннем устройства, якое дапаможа сэрцу перакачваць кроў, паведаміў карэспандэнту БЕЛТА акадэмік НАН Беларусі галоўны пазаштатны кардыяхірург Міністэрства аховы здароўя Юрый Астроўскі.**

"Цяпер мы працуем сумесна з расійскімі вытворцамі над стварэннем помпы, якая замяшчала б функцыю аднаго з жалудачкаў сэрца", - сказаў Юрый Астроўскі. Плануецца правядзенне эксперыментальных выпрабаванняў распрацоўкі на буйных жывёлах, што ў далейшым пры іх паспяховасці можа прывесці непасрэдна да клінічнай апрабацыі метаду. З'яўленне айчыннай помпы дапаможа вырашаць праблему лячэння тэрмінальнай формы хранічнай сардэчнай недастатковасці. "Лекавыя прэпараты не могуць замяніць згасаючую помпавую функцыю сэрца. Дапамагчы чалавеку можа толькі помпа або трансплантацыя сэрца. Выкарыстанне помпы забяспечвае якасць жыцця пацыента, што не ўступае той, якой можа дасягнуць пры перасадцы", - сказаў галоўны пазаштатны кардыяхірург. У Беларусі некалькім пацыентам імплантаваны помпы імпартнай вытворчасці. Помпа беларуска-расійскай вытворчасці дасць магчымасць падоўжыць жыццё пацыентам на некалькі гадоў.

*БелТА.*

# Урон за вылаўленую рыбу разлічваецца ў 3-х кратным памеры

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Абмежаванні на лоўлю рыбы. З набліжэннем сакавіка для рыбаловаў-аматараў уступяць у дзеянні і першыя абмежаванні на аматарскую лоўлю рыбы, дакладней, на вылоўліванне асобных відаў рыбы і водных жывёл.**

Паводле Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Рэспубліцы Беларусь, у мэтах захавання рыбных рэсурсаў і стварэння спрыяльных умоў для ўзнаўлення Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя можа ўсталёўваць абмежаванні і забароны на прамысловае і аматарскае рыбалоўства, лоўля асобных відаў рыбы, у асобных рыбалоўных угоддзях, у вызначаныя тэрміны, а таксама на выкарыстанне асобных прыладаў і (ці) спосабаў рыбалоўства. Лоўля ўсіх відаў рыбы ў рыбалоўных угоддзях забараняецца ў Віцебскай вобласці з 10 красавіка па 8 чэрвеня, у Мінскай, Магілёўскай і Гродненскай абласцях з 1 красавіка па 30 траўня, у Брэсцкай і Гомельскай абласцях з 20 сакавіка па 18 траўня, за выключэннем, аматарскага рыбалоўства, якое здзяйсняецца адной вудай з адным кручком ці адным спінінгам, абсталяваным штучнай прынадай, з адным адзінарным, ці падвойным, ці патройным кручком у светлы час сутак з берага (без заходу ў ваду) або з лёду, са штучных збудаванняў.

Акрамя ўказаных забарон Правілы прадугледжваюць уводзіны забароны на лоўлю асобных відаў рыбы, так:

**– Віцебская вобласць забарона на лоўлю шчупака звычайнага настае з 9 сакавіка да 25 красавіка ўлучна.**

**– лоўля судака забаронена з 15 красавіка па 30 траўня,**

**– лоўля сома звычайнага забаронена з 31 траўня па 1 ліпеня ўключна.**

Грамадзяне, затрыманыя ў рыбалоўных угоддзях у перыяд забароны, з асобінамі шчупака будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці ў памеры ад **20 да 50 базавых велічынь,** а ўрон за вылаўленую рыбу разлічваецца ў 3-х кратным памеры. У выпадку, калі сума прычыненага ўрону будзе перавышаць 100 базавых велічынь у адносінах да парушальніка ўзбудзяць **крымінальную справу па арт. 281 КК РБ.**

Ніякіх падаўжэнняў лоўлі шчупака сёлета няма, забарона па Віцебскай вобласці з 9 сакавіка, таму ўсім рыбаловам неабходна карыстацца законам, а не чуткамі, пра падаўжэнне тэрміну лоўлі шчупака.

Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі ў перыяд наступу вясновых забарон і абмежаванняў дзейнічаюць у поўным аб'ёме і праца за іх выкананнем толькі ўзмацняецца.

Таму, супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі звяртаюцца да рыбаловаў-аматараў не спакушаць свой лёс і не парушаць Правілы рыбалоўства, таксама рыбаловам неабходна звяжаць на лёдавае пакрыццё вадаёмаў.

Вельмі часта пасля рыбалкі на лёдзе застаецца шмат смецця, пустых бутэлек, паперы, пачкаў ад цыгарэт, недакуркаў ад цыгарэт - усё гэта ёсць нішто іншае, як забруджванне лядовага покрыва і цягне штраф у памеры да 20 базавых велічынь.

З 17 па 19 лютага па ўсёй тэрыторыі краіны супрацоўнікамі Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з іншымі прыродаахоўнымі і праваахоўнымі органамі, прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі будуць праведзены мерапрыемствы па адпрацоўцы вадаёмаў, з мэтай спынення забруджвання побытавым смеццем лёдавага пакрыцця прыбярэжных палос вадаёмаў. Просьба да ўсіх грамадзян: не выкідваць смецце на лёд. Прыйшоў на рыбалку – прыбяры месцы лоўлі рыбы.

Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце патэлефанаваць на нумар "гарачай лініі" Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 5-59-80 ці маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Паклапацiцеся аб самых дарагіх!

**З 1 студзеня 2017 года перавозка дзіцяці без дзіцячага крэсла караецца штрафам**

■ **Ю.В. Заяц,**
*старэйшы дзяржаўтаінспектар АДАІ.*

Па дадзеных статыстыкі значная колькасць дзяцей гіне пры аварыях, знаходзячыся ў аўтамабілі, а не патрапіўшы пад яго колы. Яшчэ больш пацярпелых трапляюць у бальніцы з рознымі, у тым ліку сур'ёзнымі траўмамі.

Калі маляняці, пасаджанага на сядушку аўтамабіля, паспрабаваць прышпіліць з дапамогай штатнага рамяня бяспекі, яго стужка ахопіць шыю і сцягне дзіцяці, што катэгарычна недапушчальна. Размяшчаць дзіця на каленах дарослага чалавека, які сядзіць на задняй сядушцы аўтамабіля, недапушчальна. Справа ў тым, што пры сутыкненні ўжо на хуткасці 50 км/гадзіна сілы інэрцыі перавышаюць велічыню вагі цела ў дзясяткі разоў, і дзіця можа быць прыціснута тым, хто знаходзіцца ззаду яго. Адзіным спосабам, які забяспечвае бяспеку пры перавозцы ў аўтамабілі, з'яўляецца ўжыванне адмысловых утрымлівальных прылад.





**У легкавым аўтамабілі, абсталяваным рамянямі бяспекі, пры перавозцы:**

● дзяцей да 5 гадоў – павінны выкарыстоўвацца дзіцячыя ўтрымлівальныя прылады, якія адпавядаюць вазе і росту дзіцяці;

● дзяцей ад 5 да 12 гадоў – павінны выкарыстоўвацца дзіцячыя ўтрымлівальныя прылады, што адпавядаюць вазе і росту дзіцяці ці іншыя сродкі (бустары, адмысловыя падушкі для сядушкі, дадатковыя сядушкі), якія дазваляюць бяспечна прышпіліць дзіця з дапамогай рамянёў бяспекі), за выключэннем выпадкаў, калі:

рост дзіцяці больш за 150 см;

дзіця (незалежна ад яго вагі) перавозіцца ў таксі.

**Забараняецца перавозка дзіцяці:**

● на пярэдняй сядушцы легкавога аўтамабіля з выкарыстаннем дзіцячых утрымлівальных прылад, спінка якіх разгорнутая да лабавога шкла, калі пярэдняя сядушка мае падушку бяспекі, за выключэннем выпадку, калі механізм франтальнай падушкі бяспекі адключаны.

● да 12 гадоў на задняй сядушцы матацыкла, мапеда;

● на каленах у кіроўцы ці ў пасажыра на пярэдняй сядушцы легкавога аўтамабіля;

● у кузаве грузавога аўтамабіля з бартавой платформай і ў кузаве-фургоне.

З 1 студзеня 2017 года перавозка дзіцяці без дзіцячага крэсла ці з іншым парушэннем правіл перавозкі дзяцей караецца штрафам у памеры:

● да 92 белы.руб. ці папярэджаннем;

● ад 46 да 184 бел.руб. - калі грамадзяніна ўжо каралі за такое адміністрацыйнае правапарушэнне менш 1 года назад;

● ад 69 да 690 бел.руб ці пазбаўленнем правоў да 2 гадоў – калі гэта прывяло да прычынення дзіцяці лёгкага цялеснага пашкоджання.



# Больш за $6,7 млн сродкаў міжнароднай тэхдапамогі прыцягнута ў 2016 годзе на прыродаахоўныя праекты

**Больш за $6,7 млн сродкаў міжнароднай тэхнічнай дапамогі было прыцягнута ў 2016 годзе на прыродаахоўныя праекты, паведаміў сёння міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Андрэй Каўхута на падагульняючай калегіі ведамства, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

*"У мінулым годзе значная ўвага ўдзялялася міжнароднаму супрацоўніцтву. Вынікам актыўнай работы стала прыцягненне сродкаў міжнароднай тэхнічнай дапамогі ў аб'ёме звыш $6,7 млн"*, - падкрэсліў міністр. У 2014 годзе сума прыцягнутай тэхдапамогі складала $4,5 млн, у 2015-м - $5 млн. Андрэй Каўхута растлумачыў, што сродкі былі выдзелены згодна з рэалізацыяй 12 праектаў міжнароднай тэхдапамогі. *"Пры гэтым аб'ём тэхнічнай дапамогі, што прыцягваецца ад міжнародных арганізацый, больш як у 40 разоў перавышае сродкі, патрачаныя нашай краінай на выплату ўзносаў за ўдзел у гэтых арганізацыях"*, - адзначыў ён. Міністр нагадаў, што Беларусь у 2016 годзе адной з першых падпісала Парыжскае кліматычнае пагадненне і ўзяла на сябе шэраг абавязацельстваў па зніжэнні выкідаў парніковых газаў. *"Акрамя таго, у мінулым годзе былі падпісаны дагаворы аб супрацоўніцтве з прыродаахоўнымі ведамствамі Францыі, Арменіі, Грузіі, аднаўлена сумесная дзейнасць у галіне аховы навакольнага асяроддзя з Польшчай і Аўстрыяй, пачата работа з Егіптам"*, - канстатаваў ён. Андрэй Каўхута таксама расказаў, што ў 2016 годзе праводзілася работа па ўзгадненні з профільным міністэрствам В'етнама праекта двухбаковага мемарандума, які павінен быць падпісаны ў 2017-м.

*БелТА.*

## МНС інфармуе

**на 14.02.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 125;
Гібель людзей – 24, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 8;
Гібель людзей – 0, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

# Беларусь увайшла ў топ-10 краін з найменшым узроўнем злачыннасці

**Беларусь увайшла ў топ-10 краін з найменшым узроўнем злачыннасці і высокім узроўнем бяспекі па версіі папулярнага сэрвісу Numbeo. Беларусь размясцілася на дзясятым радку ў рэйтынгу.**

Усяго ў рэйтынгу ўзроўню злачыннасці і бяспекі ацэньвалася 125 краін. Краінай з найменшым узроўнем злачыннасці з'яўляецца Катар, які заняў першае месца. Таксама ў топ-10 увайшлі Сінгапур, Аўстрыя, ААЭ, Грузія і інш. Пры гэтым Эстонія заняла 12-е месца, Азербайджан – 18-е, Арменія – 19-е, Польшча – 30-е, Латвія – 40-е, Літва – 50-е, Расія размясцілася на 67-м радку, Казахстан – на 72-м, а Украіна – на 85-м. Самымі небяспечнымі краінамі свету, паводле рэйтынгу, сталі Гандурас (123-я радок), Папуа-Новая Гвінея (124-я) і Венесуэла (125-я). Numbeo – папулярная база дадзеных карыстальнікаў з розных краін і гарадоў. Індэкс злачыннасці і бяспекі заснаваны на апытаннях карыстальнікаў сайта і з'яўляецца адзнакай агульнага ўзроўню злачыннасці ў горадзе ці краіне.

*БелТА.*

